ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА — PRICE $ 1.50

# Беларус

B I E L A R U S
Byelorussian Newspaper in the free World
Published by the Byelorussian-American Association
P.O. Box 178
Jamaica, New York 11432
U.S.A.

| № 357а* Год выд. XXXVIII | Сакавік 1989 |
| --- | --- |

* Папярэдні нумар мусіў быць 356

## «ПЕРАБУДОВА ДЗЕСЬЦІ ЗАБЛУДЗІЛА»

### ЧАРНАСОЦЕНЦЫ Ў МЕНСКУ

***Ад Рэдакцыі**: У расейскамоўнай газэце Літоўскага Руху за Перабудову «Возрождение» (№4/17 з 27.1.89) зьмешчаны артыкул беларускага публіцыста Васіля Якавенкі пад заг. «Да і па мітынгу». Артыкул гэты добра адлюстроўвае і характарызуе падзел сілаў у Менску паабапал ідэйных барыкадаў. Ніжэй зьмяшчаем (зь невялікім скаротам) Якавенкаў артыкул, даўшы яму свой загаловак.*

Няма нічога патаёмнага, што ня сталася-б яўным. Як я разумею, дзесьці наверсе, куды не дасягае вока й кантроль народу, употайкі ад яго адбываліся дзівугодныя сваёй старарэжымнай існасьцяй рэчы: чыноўніцтва, якое кіруе і якім зусім нельга кіраваць, колькасна накаплялася, разгалінялася, адчужвалася ад народу. Грамадзкая надбудова пагражала абваламі, і, нарэшце, калі народ падняў галаву і крыху варухнуў плячыма, згары ўніз па пахілай рухнуўся сель (горны паток вады з камнямі — рэд. «Б-са»).

Думаю, гэта галоўнае ўражаньне, якое вынес бадай ці ня кожны ўдзельнік мітынгу-рэквіему «Дзяды», што сабраўся і адразу-ж быў разагнаны салдатамі й міліцыяй у Менску 30 кастрычніка (1988 г.). Быў рэдкім і дзікім, антаганістычным канстраст ужо ў самой існасьці, паводля задумы дзеяньняў народу і мясцовых уладаў, што выражалі інтарэсы бюракратыі. З аднаго боку — жыхары гораду, якія адраджаюць гуманную, добрую традыцыю, што зьвязвае пакаленьні продкаў, жыцьцё якіх цірэдчас абрывалася трагічна, традыцыю пакланеньня праху тых, хто стаўся гордасьцяй нацыі, а з другога — гэтая сіла, што застрашвае сьлезацечнымі газамі, вадамётамі і дубінкамі — супрацьпраўная, хамская — на могільнік не прапушчалі нават дэпутатаў Вярхоўнага Савету БССР, што ішлі з кветкамі ў руках.

Аднак вінаваціць усю міліцыю ці радавых салдатаў сёньня — не выпадае, хоць і сярод міліцыянераў сустракаліся такія, што бегалі па полі за дзяўчатамі і пушчалі ім проста ў твар едкія аэразолі. Гэта садызм. За газы й дубінкі, відаць, адкажуць палкоўнікі і падпалкоўнікі, што падавалі каманду.

Але-ж за сьпіной міліцыі стаялі ўлады, якія, як заўсёды, захоўваюць глыбокую таямніцу. Яны й раней не адзначаліся ляяльнасьцяй да мітынгаў і сьвяточных маніфэстацыяў у народным духу. Два з палавінай гады таму, з блаславенства ўладаў, былі пабітыя й разагнаныя дзеці, вучні рэспубліканскай мастацкай школы, што наладзілі на Траецкім прадмесьці гораду сьвяточны паказ зь песьням — й танцамі — гуканьне вясны. Зварот грамадзкасьці ў гэтай справе ў пракуратуру рэспублікі застаўся без адказу. Беззаконнасьць, самадурства працягваліся.

На пачатку сёлетняга году маладыя людзі, сябры патрыятычнага аб'еднаньня «Талака», арганізавалі мітынг у Курапатах, на месцы жудаснага злачынства сталіністаў перад савецкім народам. Мітынг меў мабілізуючае палітычнае і ўзгадавальнае значэньне, спрыяў самаачышчэньню грамадзтва. Тым ня менш гарадзкія ўлады аштрафавалі ягоных арганізатараў.

Сталінізм у Менску абараняецца пасьлядоўна й энэргічна. Нядаўна Беларускі акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы ўпрыгожыў агароджу, пастаўленую мэтрабудаўцамі недалёка ад тэатральнага будынку, плякатам: на чорным фоне вялізарны нож шэрага сталёвага колеру з выпуклым і як-бы зазубленым лязом, на якім выразна праглядваўся профіль «бацькі народаў». На сталі кляймо: «Нерж.». І, як-бы на довад нержавелых якасьцяў сталінізму, камунальнай службе гораду было загадана плякат зараз-жа зьняць.

На мітынгу-рэквіеме каля Ўсходняга могільніка цісьнуты міліцыяй натоўп скандаваў: «Вандэя! Вандэя!», «Сталіністы», «Жыве Беларусь!» І што цікава, ніводзін з гэтых лёзунгаў да гэтага часу ня трапіў на старонкі друку, затое называліся іншыя, выдуманыя, правакацыйныя, якіх ня было зусім.

Паводля цьверджаньняў некаторых афіцыйных асобаў, што выступілі пасьля мітынгу 30 кастрычніка ў Доме літаратара і Доме палітасьветы, няпрыстойная вазьня й рэакцыя пачаліся па выступленьні пісьменьніка Алеся Адамовіча ў «Огоньке» № 39, дзе ён назваў Менск «антыперабудовачнай Вандэяй». Бач, Адамовіч сваім неразважлівым параўнаньнем абразіў пачуцьці мянчанаў... Але абражанай выявілася толькі бюракратыя, якая баіцца перабудовы. Дзеля гэтага й рухнуўся сель, і сваімі далейшымі дзеяньнямі ўлады, ня хочучы таго, яшчэ раз пацьвердзілі, замацавалі славу Вандэі для вялікага сталічнага места. За два тыдні да мітынгу ў гарадзкім і рэспубліканскім друку, а таксама ў разгалінаванай афіцыйнай прапагандзе пачалося ашалелае цкаваньне творчае інтэлігенцыі, першнаперш пісьменьнікаў, што выказваюць інтарэсы народу. Супраць інтэлігенцыі настаўляліся работніцкія калектывы, у Менск для «ідэйнага» змаганьня з «нацыяналістамі» і «экстрэмістамі» з «Сучасьніка» і іншых самадзейных аб'еднаньняў былі сьцягнуты корпус ідэёлягаў і грамадазнаўцаў, зь якімі ў Доме палітасьветы правялі штосьці накшталт мітынгу. «Нам з вамі не падарозе!» — ад імя работніцкае клясы і штурмавікоў абвесьціла газэта «Вечерний Минск». Не падарозе, значыцца, з В. Быкавам, А. Адамовічам, Н. Гілевічам, Р. Барадулінам і многімі іншымі літаратарамі, што выйшлі з народу, не падарозе з археолягам З. Пазьняком, які

(Працяг на 4-й б.)

*ВІТАЕМ ВАС, ПАВАЖАНЫ ЧЫТАЧУ, З УГОДКАМІ АБВЕШЧАНЬНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ, ДНЁМ 25 САКАВІКА. ПАМЯТАЙМА, ШТО БЕЛАРУСЬ ЖЫВЕ НАГЭТУЛЬКІ, НАКОЛЬКІ МЫ ЁЙ АДДАЕМ СВАЕ СІЛЫ. — РЭДАКЦЫЯ.*

## ФАЛЬСЫФІКАТ СТАЛІНЦАЎ!

### Пра «Пагоню» і свастыку

Каб як-небудзь зганьбіць беларускую нацыянальную эмблему «Пагоня», якою карыстаюцца цяпер адраджэнцы на Бацькаўшчыне, менскія рэакцыянеры кінуліся на фальсыфікат: нейкаму дурню стукнула ў галаву прычапіць да «Пагоні» гітлераўскую свастыку. І вось рэдакцыя газэты «Советская Белоруссия» пастанавіла запоўніць «белую пляму» гісторыі: у нумары «СБ» за 19.X.88 зьявіўся матар'ял на цэлую старонку друку пад заг. «АКУПАЦЫЯ. Злачынныя мэты — злачынныя сродкі». Карэспандэнт «СБ» Ю. Гуртавенка правёў гутарку з супрацоўнікам АН БССР гісторыкам Васілём Раманоўскім і заступнікам начальніка Галоўнага архіўнага ўпраўленьня пры Савеце Міністраў БССР Аляксандрам Міхальчанкам. Увесь матар'ял «СБ» ськівраваны на тое, каб як-небудзь спалучыць зь нямецкімі злачынствамі «беларускіх нацыяналістаў» і іхнюю эмблему «Пагоня». І ці то Міхальчанка ці нейкі іншы мудрагель (можа Савелій Саўка Паўлаў з ЦК КПБ?) выцягнуў з архіву «дакумэнт»: пасьветчаньне Беларускае Народнае Самапомачы, на якім нямецкі арол са свастыкай і «Пагоня» спалучаныя у адно як эмблема БНС. Які ідыятызм фальсыфікатараў! Ім ня стала розуму дадумацца, што Немцы ніколі не дазволілі-б гэткага «сьвятатацтва» ў дачыненьні да іхнага «юбэрмэншаўскага» арла, каб нейкія там «унтэрмэншы» спалучалі яго із сваёй «Пагоняй». Усяго толькі падумаць трэба было!.. Але ненавісьць ня можа думаць. Ненавісьць спаўзае ў балота прымітывізму. Гэткім прымітывізмам і пазначаныя выказваньні Раманоўскага, Міхальчанкі ды іхная сьмеху вартая спроба пажаніць арыйскую свастыку із славянскай «Пагоняй».




AUSWEIS
ПАСЬВЕДЧАНЬНЕ

Нам пашчасьціла знайсьці сяброўскі білет БНС. Зь яго мы бачым, якім знакам карысталася гэтая арганізацыя: ніякае свастыкі тут і заваду няма. Дакумэнт наш — не ананімка, як у «Советской Белоруссии», а з подпісам галоўнага старшыні БНС Ю. Сабалеўскага і зь пячаткай, якая ставілася на пасьветчаньнях БНС і на якой таксама бачым толькі чыстую не заплямленую «Пагоню».

WEISSRUTHENISCHES SELBSTHILFEWERK — БЕЛАРУСКАЯ САМАПОМАЧ

MITGLIEDSKARTE
СЯБРОЎСКІ БІЛЕТ № 880057

Gebiet / Акруга: Lida
Kreis / Павет:

Name und Vorname / Прозьвішча і імя:
Geburtsjahr / Год нараджэньня: 1918
Anschrift / Адрыс: Lida
Monatl. Beitrag / Месячная складка: Rm. 1
Eintritts-Datum / Дата ўступу: 1943.
Der Hauptvorsitzende des WSW / Галоўны Старшыня БСП
Der Gebietsvorsitzende des WSW / Акруговы Старшыня БСП
М. П.

Гэтак вось фальсыфікатарскі бруд сталінцаў з «Советской Белоруссии» і з архіўнага ўпраўленьня пры СМ БССР ляціць назад, як навука, што з фальсыфікатамі далёка не заедзеш.

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
Subscription $20 yearly
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Падпіска зь перасылкаю 15 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# ПРАГРАМА АБ'ЯДНАНЬНЯ «ТАЛАКА»*

**(Праект)**

1. Фармулёўка тых супярэчнасьцяў, якія парадзілі наш рух.
2. Аўтапартрэт.
3. Суадносіны зь іншымі грамадзкімі дзяржаўнымі арганізацыямі.
4. Бліжэйшыя задачы.
5. Шляхі дзейнасьці.
6. Заклікі.

### 1. Праблемы, якія сталі прычынай узьнікненьня нашага руху.

Нашу Радзіму — Беларусь — напаткала вялікая бяда. Адбываецца заняпад духовай культуры. Пра гэта сьветчаць нізкі ўзровень нацыянальнай сьвядомасьці, няведнаньне народам сваёй праўдзівай гісторыі, вырачэньне роднай мовы, фальклёру, народных традыцыяў: маральных нормаў, катастрафічнае вынішчэньне помнікаў.

Панаваньне камандава-адміністрацыйнай сталінска-брэжнеўскай сыстэмы сацыялізму перашкодзіла разьвіцьцю палітычнай культуры нашага народу, яго працоўным, гаспадарчым традыцыям.

Гэтак-жа кепска тая сыстэма адбілася на лёсе ўсіх народаў СССР, не дазволіла раскрыцца гуманнай сутнасьці сацыялістычнага ладу, рэалізаваць патэнцыял раўнапраўнага саюзу народаў.

Трагізм сытуацыі прымусіў лепшую частку КПСС распачаць палітыку Перабудовы. Гэтая палітыка паступова, нягледзячы на адчайнае супраціўленьне сілаў рэакцыі і застою, прабівае сабе дарогу.

Вялікую дапамогу Перабудове закліканы аказаць грамадзкія арганізацыі. Аднак многія існуючыя арганізацыі моцна хварэюць на бюракратызм і ня здольня ў поўнай меры выражаць інтарэсы разнастайных сацыяльных груп, весьці эфэктыўную грамадзкую працу.

Таму мы, маладыя, мянчукі, усьвядоміўшы крызісную сытуацыю, што сталася на Беларусі і ва ўсім СССР, аб'ядналіся ў самадзейную грамадзкую арганізацыю «Талака», каб сумеснай працай спрычыніцца да Перабудовы.

### 2. Аўтапартрэт

Талака — гэта традыцыйны народны звычай узаемадапамогі. Гэтая слаўная традыцыя беларусаў выражае сутнасьць нашага аб'яднаньня, зьяўляецца асноўным спосабам дзейнасьці і дае нам назву. «Талака», як клюб аховы помнікаў, узьнікла ў 1985 годзе і з таго часу пасьлядоўна займалася патрыятычным, інтэрнацыянальным, працоўным, эстэтычным самавыхаваньнем і самаадукацыяй, фармаваньнем у сяброў клюбу актыўнай грамадзянскай пазыцыі шляхам дзейснага ўдзелу ў ахове помнікаў і прыроднага асяродзьдзя, усіх здабыткаў Беларускай культуры.

Уся папярэдняя дзейнасьць прывяла нас да перакананьня, што надзейнае захаваньне скарбаў нацыянальнай культуры, натуральнага прыроднага асяродзьдзя, новае духовае Адраджэньне нацыі немагчымае безь зьнішчэньня ўсіх праяваў сталінізму, адной з найбольш пачварных сыстэм падаўленьня індывідуальнасьці асобы і народу. І таму сёньня мы абвяшчаем нашае палітычнае крэда — дэсталінізацыя. Таму сёньня «Талака» актыўна змагаецца за ажыцьцяўленьне прынцыпаў дэмакратызацыі, публічнасьці ў нашым грамадзтве, ставіць перад сабою неадкладную задачу ўзвышэньня ўласнай палітычнай культуры.

### 3. Суадносіны зь іншымі грамадзкімі і дзяржаўнымі арганізацыямі

Наш запаветны ідэал — Беларусь свабодных высокамаральных, адукаваных людзей, якія незалежна ад нацыянальнасьці і роднае мовы любяць сваю агульную Айчыну — Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку, справамі спрычыняюцца да яе эканамічнага і духовага росквіту.

Мы лічым, што дасягненьне гэтага ідэалу магчыма толькі пры згуртаваньні ўсяго народу ў адзіны магутны рух. На Беларусі такім рухам павінен стаць Беларускі Народны Фронт за перабудову «Адраджэньне». Аб'яднаньне «Талака» абвяшчае сябе групай падтрымкі Фронту.

У імя гэтай мэты мы гатовыя да дыялёгу і супрацоўніцтва з усімі грамадзкімі і дзяржаўнымі арганізацыямі.

У імя гэтай мэты мы вітаем Перабудову ва ўсім Савецкім Саюзе і выступаем за перабудову адносін паміж рэспублікамі на ленінскіх прынцыпах фэдэрацыі суверэнных сацыялістычных дзяржаў, за іх узаемадапамогу, супрацоўніцтва, інтэнсыўны непасрэдны культурны абмен паміж імі.

### 4. У сваёй практычнай дзейнасьці «Талака» ставіць наступныя задачы:

І. Разам зь іншымі грамадзкімі і дзяржаўнымі арганізацыямі замацаваць у Менску новую традыцыю — рух «Родны горад». На нашую думку, рух павінен аб'ядноўваць такія формы грамадзкай ініцыятывы:

а) Талакі — сыботнікі жыхароў, працу студэнцкіх будаўнічых атрадаў, МЖК, каапэратываў аднаўленьня помнікаў, аховы прыроднага асяродзьдзя ў горадзе і прылеглых зонах адпачынку. Задача руху «Родны горад» — не дапусьціць, каб хоць адзін помнік гісторыі і культуры быў зьнішчаны.

б) Шырокае і рэгулярнае грамадзкае абмеркаваньне плянаў рэстаўрацыі, новай забудовы, паляпшэньня экалягічнай сытуацыі, культурнага жыцьця, рэформы адукацыі.

в) Краязнаўчая досьледная і прапагандысцкая дзейнасьць, стварэньне клюбаў, музэяў.

г) Стварэньне шырокай сеткі народных унівэрсытэтаў, курсаў беларускай мовы, гісторыі, мастацтва. Стварэньне навучальных і культурных установаў, грамадзкіх арганізацыяў прадстаўнікоў іншых народаў, што жывуць у г. Менску.

д) Абмеркаваньне новых і вяртаньне спрадвечных назваў вуліцам і плошчам Менску.

е) З мэтай прапаганды ідэяў руху шырокае выкарыстаньне сродкаў масавай інфармацыі, арганізацыя сходаў, мітынгаў, сьвятаў (прапануюцца міжнародныя дні аховы помнікаў, асяродзьдзя, Дзень вызваленьня гораду, традыцыйныя фальклёрныя сьвяты: Купальле, Гуканьне Вясны, Каляды, дні памяці Радуніца і Дзяды).

ІІ. Узяць актыўны ўдзел у выбарчай кампаніі ў мясцовыя Саветы Народных Дэпутатаў.

Наладзіць у клюбе рэгулярнае абмеркаваньне актуальных палітычных праблемаў, плянаў сацыяльна-эканамічнага разьвіцьця рэспублікі. Прыцягваць да гэтых абмеркаваньняў як мага большае кола спэцыялістаў.

ІІІ. Браць актыўны ўдзел у мерапрыемствах арганізацыйнага камітэту Беларускага Народнага Фронту.

Каб пасьпяхова выконваць гэтыя задачы мы павінны неадкладна ўмацаваць сваю арганізаванасьць і дысцыпліну, удасканаліць прапаганду сваёй праграмы і дзейнасьці.

### 5. Шляхі дасягненьня мэтаў

Мы дамагаемся сваіх мэтаў адкрыта, настойліва, дэмакратычнымі шляхамі. «Талака» ніколі не прэтэндуе на манаполію на ісьціну, дыктат, заусёды гаворыць толькі ад свайго імя.

«Талака» ажыцьцяўляе сваю дзейнасьць шляхам арганізацыі грамадзка карысных справаў.

«Талака» імкнецца вывучаць і ўлічваць інтарэсы ўсіх слаёў нашага грамадзтва.

### 6. Заклікі

Браце! Хто падзяляе нашу праграму і гатовы самаахвярна працаваць на карысьць Бацькаўшчыны, хто шчыры і сумленны — запрашаем да нас. Работы хопіць усім.

Калі вы не падзяляеце ў чымсьці нашай праграмы, калі ласка, стварайце сваю суполкі. Будзем спрачацца, але й будзем працаваць. Разам. Талакой.

* Гл. таксама «Мэты 'Талакі'» (частка статуту) у «Беларусе» № 354.

## *ХТО ВЯДЗЕ «ТАЛАКУ» І ХТО НА ЯЕ НАПАДАЕ*

**Фальсыфікат сталінцаў**

У кастрычніку летась ў шмат якіх газэтах БССР, у тым ліку ў абласных, зьявіўся войстры выпад супраць нефармальных групаў пад заг. «Эвалюцыя палітычнага невуцтва» (гол. «Сов. Белоруссия», 22.X.88: Эволюция политического невежества). У артыкуле, падпісаным пяцьма прозьвішчамі тытулаваных акадэмікаў, вядзецца атака на «актывістаў» «Талакі»: Сяргея Вітушку (кіраўніка «Талакі»), братоў Аўгена і Віктара Івашкевічаў, А. Радкевіча, С. Лобача. «Завадатарам» «Талакі» названы таксама Вінцусь Вячорка, выкладчык беларускае мовы Мінскага пэдагагічнага інстытуту, ды Алесь Суша, малодшы рэдактар выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыкляпэдыя».

Хто-ж вядзе наступ на аб'еднаньне «Талака»? Сталінцы!

Адзін зь пяцёх аўтараў, што падпісаліся пад артыкулам, А. Філімонаў, як сказаў пісьменьнік Васіль Быкаў («Моск. Новости», 6.XI.88), «ведамы тым, што абарніў кандыдацкую дысэртацыю «ЛаўрэньцІ Паўлавіч Бэрыя — верны друг вялікага Сталіна». Пра другога аўтара артыкулу, Н. Дарожкіна, пісьменьнік Эрнэст Ялугін («Сов. Белоруссия», 4.XI.88) сказаў, што Дарожкін яшчэ ў 1932 г. граміў «буржуазныя тэорыі ў галіне аховы расьлінаў, а пасьля, у 1947 г., браў удзел у цкаваньні генэтыкаў, у тым ліку прэзыдэнта АН БССР А. Жэбрака.

Падобныя біяграфіі маюць, відаць, і іншыя тры суаўтары артыкулу, вэтэраны сталінска-брэжнеўскага акадэмізму: А. Барданаў, Д. Жмуроўскі і К. Дамарад.

Зірнем, якімі прыхваткамі яны карыстаюцца.

У 354-м нумары «Беларуса» зьмешчаны першы разьдзел статуту «Талакі», у якім гаворыцца пра мэты й заданьні клюбу. Вось як Дарожкін і Філімонаў з кампаніяй цытуюць гэты дакумэнт. яны пішуць:

«Калі верыць статуту 'Талакі', дык яна створана для арганізацыі актыўнага ўдзелу моладзі гораду ў ахове і прапаганьдзе помнікаў гісторыі і культуры. Сваімі асноўнымі задачамі аб'яднаньне абвяшчала: 'Вывучэньне і прапаганда членамі клюбу ленінскіх ідэяў аховы гісторыка-культурнае спадчыны савецкага народу, заканадаўства аб ахове помнікаў; арганізацыя й правядзеньне работ па рэстаўрацыі, кансэрвацыі, добраўпарадкаваньню помнікаў гісторыі і культуры пад кіраўніцтвам спэцыялістаў; актыўная дапамога дзяржаўным органам аховы помнікаў у справе іх выяўленьня, уліку і выкарыстаньня…'».

Ніякае падобнае цытаты ў статуце «Талакі» няма, пра ніякую «гісторыка-культурную спадчыну *савецкага* народу» талакоўцы ў сваім статуце не гавораць, — іх цікавяць «усе здабыткі *беларускай* культуры». Пра ніякія «ленінскія ідэі» ў статуце «Талакі» таксама гутаркі няма, згадваецца адно «ленінская нацыянальная палітыка», якая разумеецца як палітыка культываваньня нацыянальнай спадчыны.

Цэлая «цытата» Філімонава з Дарожкінам і суполкай — гэта нахабны фальсыфікат «акадэмікаў», якія карыстаюцца тым самым мэтадам, якім яны карысталіся, калі пісалі пра Бэрыю, «вялікага Сталіна» ды «буржуазную генэтыку».

**А. Будзіч**

## *«ЧЫРВОНАКА» ПРА ДАНЧЫКАЎ АЛЬБОМ*

Газэта «Чырвоная Зьмена» зьмясьціла прыхільную анатацыю пра другі альбом Данчыкавых песьняў "Я ад вас далёка", адзначаючы ягоную асаблівую «атмасфэру даверу і шчырасьці».

Музычны аглядальнік «Чырвонкі» «знайшоў» аднак на кружэлцы і «шэраг сюрпрызаў», у тым, што Данчык выконвае «рускі фальклёр» і «рускую паэзію» («Перапёлачка» і «Каханая»). «Сюрпрыз» гэты — вынік таго, што рэцэнзэнт слаба, відаць, азнаёмлены зь гісторыяй беларускае народнае песьні («Перапёлачку», шэдэўр беларускага фальклёру, услаўіла сваім часам наша выдатная сьпявачка Ларыса Александроўская), а словы «Каханая» (музыка А. Карповіча) напісаў не Ясенін, а Ясень.

БЕЛАРУС № 357а* Сакавік 1989 г.

Паўлюк Задзірасты

# Нарабілася бяды ў нядзельку на Дзяды

альбо

## Як я быў на сапраўднай вайне каля свайго дому ў Менску 30.X.88.

Дзень, нядзелька, вецер коле,
Бо стаіць крыху мароз.
Шэрань беліць наваколье,
Мерзнуць рукі, ногі, нос.
Сьвята памяці — ДЗЯДЫ.
Вось і йдуць усе сюды.

Выйшаў я з пад'езду дома —
Людзі-людзі, гоман-гоман!
Тут мяне за руку хваць:
— Ты куда, тваю птмаць!
— Што за новыя парадкі?
На магілку я, да таткі...

Гонар храпы расьпірае:
— Мы тут сіла, мы тут ёсьць!
Сіла ёсьць, але дурная.
Служба ў смак — сабаку косьць.
Хто цкаваў вас на народ?
Хто пагнаў вас на магілы?
Хто камандуе: «вперёд»?
Што ж вы робіце, дурылы?

Бой з народам? Бой народу?
Каб, як быдла, стойла знаў?
Каб ня пёрся на свабоду,
Як рабуюць, каб маўчаў?
І Дзяды — варожа сіла —
З таго сьвету б'юць у звон?
Пад бульдозэр-бы магілы,
Альбо выкінуць іх вон?
Беларусь — усю за краты,
Ацалеў — у Курапаты...

Эх, ці хто у Менску ведаў,
Колькі кормім дармаедаў!
Пры пагонах, пісталетах,
Пры дубінках, пры жылетах,
Пры шчытох, з балёнам газу,
Як пламеты, як заразы.
Быць і біць. Альтэрнатывы
Не дапусьцяць дырэктывы.

Сто машын. Пажарных куча.
Варанкі і вадамёты.
Тры гады «рубіцца» вучаць,
Сёньня — практыка работы!



*Здымкі з фотарэпартажа пра дэманстрацыю ў часапісе «Крыніца» № 1, 1989 г.*

А наўкол кукарды, каскі,
Падазроны у нас век,
Дачакаесься тут ласкі...
Але-ж я яшчэ ня зэк!
Гегемон я, рабацяга,
Не палітык, ня стыляга,
Я-ж на вашыя пракосы
Дваццаць год плачу узносы...
Я народжаны бяз Бога,
Хоць яшчэ не атэіст.
Да Дзядоў, хіба, нябога
Йсьці ня можа камуніст?
Забарона — хрысьціянства,
А Дзяды шчэ ад паганства.
Я — АКОД, я — брыгадміл...
— Ну, смотри, чтоб не чудил!

Адпусьцілі, дзякуй Богу.
Я за дом, ды на дарогу.
Ну а там шынельнай хэўры
Прэ, нібыта на манэўры.
Ні тралейбус, ні машына,
Ні мужчына, ні жанчына,
Ні стары, ні малады
Не патрапяць на Дзяды.

Грудзі жудасьцю праймае,
Калі валіць сілы хмара,
І вішчыць сырэна, грае:
Ах, ты сталінская мара!
Пруць калёны у атаку.
На каго? Пабойся Бога!
На старога, на слабога,
Лясь па мордзе, бух пад с..ку...

— Будзе бой ці трэніроўка?
— Будзе ўсё. І дужа лоўка!
— Вы, сялянскія сыны,
Чаму кожны з вас дурны?
Шынялём сумленьне крыеш...
Як прачнецца, дык завыеш...
Не! Ідуць за радам рад!
Дысцыпліна і загад!

Круцяць Марачкіну рукі,
Мартыненку б'юць пад дых,
Плачуць Содалевы ўнукі...
— Пашкадуйце хоць малых!
Вунь Казловіч рот разьзявіў...
Ну і што, што ты спэцкор?
Рулю з газам — пшык! — наставіў:
— На пісакаў робім мор!
— Стальмашонка замялі!
—Ён-жа быў у іх Крамлі!
— Замялі, каб больш ня гаўкаў, —
Так сказаў вяльможны Саўка.
Рэж нацменаў, як індыкаў,
Ды віжуй, дзе іхны Быкаў.
— Потерял писака, стыд!
— Кто в его роду был жид?
— А вот этот Адамович,
Знаю точно: Аранович!
— Все масоны, сионисты,
Переантикоммунисты!
— На што точыце лязо?
— Всех берём, и всех в ШИЗО!
Вы не нация, мутанты!
— Мы ў Вандэі эмігранты.
— Проучить я вас готов.

— Дык ня рушце хоць Дзядоў!
— Кто таков?
Сьпее бойка. Перапалка:
— Идиоты, мне вас жалко...
Сьпее бойка.
— Вот вам будет перестройка!

Як прыхопіць такі кат —
Не паможа й адвакат.
Прамінуў, пабег далей
З гумай-палкай на людзей.

Важны, мажны і вальяжны,



Слухаць стаў, дык не далі,
Бо маторы зараўлі,
Ды дальбог, як на вайне,
І ўсе едуць на мяне:
Душагубкі,
Вадамёты,
Варанкі
І кулямёты...

— Дык за што нас будуць біць?
Куды дзецца, што рабіць?
Можа ўласьць перамянілі?
Можа фрыцы зноў у нас?
Можа сон дурны прысьнілі,
Што людзям пускаюць газ?

Мэгафоны завываюць...
Абкружаюць! Заганяюць
Войска зьлева,
Войска справа...
— Левай, левай!
— Марш!
— Аблава!
— Хто даў права? —
То крычыць Хрыстос-Зянон,
Спадзяецца на закон.
Абразумілі адразу —
Пшык яму у вочы газу.
Хочуць зьбіць, павалачы.
— Кыш з дарогі, крумкачы!
Люд сьмялее, робіць кола,
Пасярэдзіне Зянон.
Галавою круціць голай,
Шчэ жывы, здаецца, ён.
Як кіно: псыхоз-атака.
Шчыт і шлём. Аўчар-сабака.
Без разбору гвалцяць люд.
— Дзе закон? Савецкі суд?
Гнуць Купаву да зямлі,
Паднялі і панясьлі.

Рэспэктабельны як пан,
Сам Раеўскі лёс свой дражніць,
Кажа: «Брысь, а то як дам!»
От, маўчаў-бы сабе ціха
Альбо лесам уцякаў,
Пшык яму з балёну ліха —
На нагах не устаяў.
Газ у нас дык не японскі:
Чарамховы, чарамхоўскі,
Меўся быць на прусакоў,
Пшык Раеўскаму — гатоў!
Плач, як плакаў наш Купала —
Яму болей перапала.
Стаў спэктаклі пра вандэю —
Не заб'юць, дык зразумеюць...
А на самым на пагорку,
Быццам невадам з вады,
Цягнуць беднага Вячорку.
— А куды яго? Куды?
— Чё, куды? Туды, в реку:
Топим ету «Талаку»!
И «Тутейших» помордуем,
Мы их носом, сука, чуем!
Мне приказ и я берусь
Всю очистить Белорусь!
— Ад каго? Ад жыхароў?
Тут палкоўнік аж зароў:
— Чё? Любить вас не привык?
За колхозный ваш язык?
— Але сала любіш наша?
Бульбу прэш, ды бязь нітратаў.
— Я вам жизню строю краше!
— Строй, ды толькі без салдатаў.
— Вы подполье сотворили!
— Дзе? Пачуць я быў-бы рад.
Як вы нас перахрысьцілі?
— Хрен вам «Матрипатрихат»!
С нами сила и порядок.
Наведем его, где надо!
Брысь!



Асташонку — па пячонках,
Аж павіснуў на сасонках.
Цягнуць нейкую дзяўчыну,
Кухталя і мне у сьпіну.
Стаў, гляджу яму у храпу:
Ці пасьмееш яшчэ біць?
Апусьціў мярзотнік лапу,
Проста Бэрыем глядзіць.
Хачу плюнуць, ды баюся.
Знаю сам, дзе апынуся.

Заткнись!
Руки вверх!
Сюда садись!

Вось якія тут падзеі
Робяць кормчыя Вандэі.
Наша Коза-Бела-Ностра
Атакуе вельмі востра
Як прыціснуць, то здаецца,

*(Працяг на 4-й б.)*

## НАРАБІЛАСЯ БЯДЫ Ў НЯДЗЕЛЬКУ НА ДЗЯДЫ

*(Заканчэньне з 3-й б.)*

Што галоснасьць гнецца, рвецца,
Што Масква не устаіць,
Што й туды паедуць біць,
Што канец Перабудове...
Стоп, засраныя панове!
Трасцу ў бок, часы ня тыя,
Людзі болей ня нямыя!

У адказ нясуцца маты.
Што, нам тутка зімаваць?
— Дык ідзем на Курапаты,
Будзем там мітынгаваць.
Абагнаць!
Задрыжала, зараўло.
Задымела: папаўзло.
Замігала, засьвяціла.
Стыне кроў ажно у жылах.

Людзі сталі на калені
На пакатым тым бугры.
— Плюнь на сталінскія цені,
Зянон-братка, гавары!
На Дзяды натоўп зьбіраўся,
І ніхто зь іх напярод
Знаць ня знаў, не здагадаўся,
Што зь Дзядоў ідзе НАРОД.
І хацеў ён, не хацеў,
Але сёньня зразумеў,
Дзе схавана сіла «класа»,
Што жарэ бясплатна мяса,
Што кіруе, як захоча,
Што на могілках рагоча,
Што культуру нішчыць, мову,
Што нас доіць, як карову,
Што давёў нас да жабрацтва,
Што крычыць пра роўнасьць, брацтва.
Супраць нас законы піша —
Кыш пад венік, людзі-мышы!
Што ў газэтах брэх друкуюць,
На рабочых гоняць страх:
Бач, рабочыя працуюць,
Нефармалы — пры жыдах.
За рабочы кошт жыруюць!
Проста жах!
Толькі крыкнуць шчэ ня сьмеюць:
«Бі жыдоў, ратуй Расею!
Натравіць, цкаваць старацца,
Каб ня сьніўся ім той фронт,
Даць пад хвост — пачнуць баяцца,
Ды яшчэ узяць на понт:
Нефармалы? Іх навалам!
Пры станку як вы былі,
Дык яны усё памалу
З магазынаў падмялі.
Рускіх высяляць, павяжуць.
Можа нават будуць біць...»
Чыю душу мёдам мажуць?
Чый язык яшчэ баліць?
Дзе чыталі мы пра гэта?
Ах, чужая нібы слава?
Быў у іх такі паэта —
Падкалодны гад Цанава.
І сыны яго у сіле —
Вунь стаіць якая раць!
Морды гэтак адкармілі,
Што за дзень не аба..аць!

«Беларусь — стабільны край» —
Для вандэйцаў проста рай.
Бо народ пакорны, чулы
Сталіністам даў прытулак.
Селі моцна на гарбе,
І на мне, і на табе.
Ды народам, як канём
У нябыт, у ноч кіруюць.
На Дзяды хоць спамянём,
Паіменна іх, хай чуюць!

Змыем, шчысьцім, сплюнем гразь.
Злазь, брыда, з народу, злазь!

## КАШУЛІ З «ПАГОНЯЙ»





*Пасьля разгону мітынгу ля Ўсходніх могілак людзі йдуць на Курапаты* («Крыніца» № 1, 1989)

## «ПЕРАБУДОВА ДЗЕСЬЦІ ЗАБЛУДЗІЛА»

*(Заканчэньне зь 1-й б.)*

адкрыў Курапаты. Не падарозе з навукоўцамі У. Конанам, А. Мальдзісам, М. Ткачовам, А. Грыцкевічам, А. Жураўлёвам, што адчыняюць людзям вочы на іхную гісторыю, культуру, эканоміку, ейную нестабільнасьць. Не падарозе з галоўным рэжысэрам Рускага драмтэатру імя М. Горкага, дэлегатам XIX Усесаюзнай партыйнай канфэрэнцыі В. Масьлюком: ён трапіў у чорны сьпісак актывістаў руху за перабудову, зь ім забараняюцца публічныя спатканьні.

Свайго апагею гэтая чарнасоценная кампанія, інакш ня скажаш, дасягнула апошнімі днямі кастрычніка, да мамэнту мітынгу-рэквіему. Прычынай сталася новая красамоўная падзея: у самым сэрцы антыперабудовачнае Вандэі стварыўся арганізацыйны камітэт народнага фронту за перабудову «Адраджэньне», куды ўвайшлі прадстаўнікі творчых саюзаў, вучоныя, інжынеры, і нават рабочыя. Вестка проста ўзьюшыла бюракратыю і, здаецца, пазбавіла яе розуму. Хтосьці пусьціў чутку, што мітынг-рэквіем будзе выкарыстаны для арганізацыйнага афармленьня Народнага фронту. Плётка спрацавала і скавала страхам казённыя душы. Не дарма! Бо-ж калі народны рух за перабудову набярэ сілы, ён можа нанесьці адчувальны ўдар па казённа-бюракратычным стылі работы, па каманднай сыстэме.

З гэтага й трэба выходзіць у разуменьні таго пачварнага зборышча міліцыі й войскаў МУС зь іхнай «тэхнікай» у месьце Менску, ля могільніка. Вартаўнікі параду павінны былі здушыць рух за перабудову ў самым зародку, ім гэта здавалася магчымым, і ў гэтым выявілася кансэрватыўная, рэакцыйная існасьць іхных матываў і дзеяньняў. Яны сталіся шматаблічнай накручвальнай цацкай у руках чыноўнікаў, што узурпавалі народную ўладу, прысабечылі прывілеі ды стварылі новую касту накшталт дваранства. У разуменьні існасьці сёньняшнага змаганьня зь перабудовай таксама патрэбен клясавы падыход. Гэтак вось страхотлівая «тэхніка» і спэцмашыны для перавозу арыштаваных прызначаліся перш-наперш для актывістаў Народнага фронту. Семдзесят дзьве асобы схапілі. Ды ня тых! Стралялі быццам-бы ў цэль, а пацэлілі ў «малако»!

Праведзены 31 кастрычніка сход камуністаў Саюзу пісьменьнікаў заявіў ураду рэспублікі пратэст у сувязі з раськілзаным цкаваньнем інтэлігенцыі, спробай дыскрэдытацыі яе, забаронай і разгонам мітынгу-рэквіему «Дзяды». Пад ціскам грамадзкасьці Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету БССР вымушаны быў стварыць дэпутацкую камісію для расьследаваньня злачынства афіцыйных асобаў, бюракратыі супраць народу 30 кастрычніка. Камісію ўзначаліў сакратар Белсаўпрофу дэпутат Н. І. Рош. Камісія запрасіла й апытала ўдзельнікаў і сьветак мітынгу. Слухалі іх ахвоча, але пратакол ня вёўся, і за колькі дзён у друку зьявілася размытая ўва ўсіх сваіх выказваньнях, бяззубая, з прыхоўваньнем праўды і дзеля гэтага, занадта, амаральная выснова дэпутатаў, сярод якіх быў і першы сакратар Саюзу пісьменьнікаў БССР Н. Гілевіч. Сюрпрыз: ён, Гілевіч, гэнымі-ж днямі заявіць у друку, што «высновы камісіі ў гэткай рэдакцыі як паданая чытачом», ён не падпісваў і ўважае «забарону 'дзядоу' грубой памылкай, што абярнулася шкоднымі, дэстабілізуючымі грамадзка-палітычную атмасфэру, вынікамі».

Пасьля мітынгу айцы места прыклалі цімала намаганьняў, каб схаваць праўду аб тым, што адбылося, і з экранаў тэлевізараў, а таксама з бачынак друку пайшла да чытачоў хлусьня, яўная, нічым ня прыкрытая, што крычэла аб новым злачынстве бюракратыі, якая паверыла ў сваю беспакаранасьць. Поўным ходам ідзе і брудная кампанія ахайваньня інтэлігенцыі, перш-наперш В. Быкава, прычым цьвярозы, аб'ектыўны аналіз у друку й прапагандзе падменьваецца інсынуацыямі, плёткамі. Прыкладам, працаўнік гаркому партыі М. Мікуліч на сходзе студэнтаў і выкладчыкаў Беларускага інстытуту фізкультуры ўва ўсю лае прыбалтыцкі рух за перабудову, забываючыся, што рух гэты заявіў пра сябе ўжо і на Урале, і ў Маскве, Ленінградзе... Мікуліч бачыць у прыбалтыцкіх франтох руку Захаду. «Іхны агульны назоўнік — контррэвалюцыйныя выступленьні». Цур-цур-цур! Госпадзе, да чаго-ж прымітыўна!.. Разважаючы пра сваіх прыхільнікаў абнаўленьня грамадзтва, гэты дзеяч ад палітыкі глыбокадумна заяўляе: «Усе гэтыя падзеі ў Беларусі інсьпіруюцца нейкімі сіламі ў Маскве. Цяпер за аб'ект і цэнтар зрыву перабудовы, дэстабілізацыі абраная Беларусь». Які размах — ад Захаду да Масквы! А пачне гаварыць пра Ўральскі народны фронт — яго «закіне» ў Японію. (...)

21 лістапада ў Доме кіно адбыўся агульны сход прадстаўнікоў творчых саюзаў, навукова-тэхнічнай інтэлігенцыі, рабочых. Сход выказаў недавер дэпутацкай камісіі, што займалася расьследваньнем падзеяў, зьвязаных з «забаронай і закрыцьцём мытінгу-рэквіему». Фармулёўка, з дазволу сказаць!

Мне сумна й агідна пісаць гэты артыкул. Аналізуючы падзеі апошняга месяца ў Менску ды на Беларусі ў цэлым, бачыш, да якога глыбокага крызісу й дэградацыі дайшла наша сталічная бюракратыя, якая ня ўмее кіраваць пановаму. Старыя мэтады ўжо не падыходзяць, і яна ў разгубленасьці. Зрэшты, разгубленасьць ужо мінула. Бюракратыя паранейшаму ля ўлады і паказваючы свой пагрозьлівы выскал, яна вядзе перасьлед падзьвіжнікаў з народу. Ідзе разьмежаваньне сілаў. У хлусьні запраўды кароткія ногі. Знаючы гэта, апарат, якому трэба было-б заняцца гуманізацыяй, запраўдным узгадаваньнем і ўдасканаленьнем чалавека, займаецца тыражаваньнем хлусьні, што разбэшчвае душы. Хлусьня патокам залівае гарады й сёлы. Прыхватка таксама ня новая, проста скажам, пляскатая прыхватка. Але сёньня народ ашукаць цяжка, хоць шмат хто яшчэ верыць мацёрым бюракратам, якія на словах выступаюць за перабудову.

Паўтараю, пісаць аб гэтым сумна. У мяне такое ўражаньне, што рэвалюцыя перабудовы, абвешчаная згары, дзесьці заблудзіла. Перабудове патрэбнае падтрыманьне масаў, якія ўсьведамляюць сабе сваю моц.

**Уладзімер Някляеў**

## МАЎКЛІВЫ МІТЫНГ

Усё, што коціцца,
Дакоціцца да нас...

І дакацілася.

Ля могілак якраз,
Дзе сны пра вечнасьць сьняць
Ці сьпяць бяз сноў —
З усімі — Караткевіч...
Куляшоў...—
Маўклівы мітынг.

З кожным, хто прыйшоў,
Зьявіліся і сталі побач продкі...

Маўклівыя
стаялі цені родных,

Маўклівыя
стаялі цені блізкіх:
Пад крыжам лёгшых. Зоркай, Абэліскам.
Ва ўсіх Хатынях спаленых. Забітых
Пад Грунвальдам.
На Калыме «прышытых».
Бясьсьледна зьнікшых. Хапам пахапаных,
Нікім, нідзе, ніяк не пахаваных,

Ці ў Курапатах
ськівутых у роў...

Ад плоці плоць
І ад крывінкі кроў,
Мы ведалі, пра што маўчалі зь імі, —
Жывыя зь мёртвымі.
І мёртвыя з жывымі.

І ўпяршыню, маўкліва сьцяўшы рот,
З натоўпу глянуў люд. Амаль народ.

30.Х.88 г.

«Крыніца», № 1, 1989

## ЗАЦІСК ПЛЮРАЛІЗМУ Ў ДРУКУ БССР

Літоўская савецкая газэта «Кам'яунімо цесы» (якая выходзіць таксама парасейску), у нумары за 8.XI.88, пад загалоўкам «'Талака' прапануе сваю праграму», зьмясьціла інтэрв'ю з Алегам Грузьдзіловічам, загадчыкам аддзелу ваенна-патрыятычнага ўзгадаваньня моладзі беларускае рэспубліканскае газэты «Знамя Юности». Грузьдзіловіч сказаў:

«'Талака' прапануе абмеркаваць усе пункты праекту свае праграмы ўсенародна, выслухаць усіх і кожнага. А калі народ захоча, можна будзе праект зьмяніць. Але ніводнае друкаванае выданьне ў рэспубліцы не дае ім такой магчымасьці».

У друку БССР праграма «Талакі» і дасюль не зьявілася. Вось вам і «галоснасьць». Гэта паказвае, як глыбака яшчэ ў Менску сядзяць акапаўшыся кансэрватыўныя бюракраты, які рэакцыйны характар партыйнага кіраўніцтва ў БССР. Разам з тым гэта пацьвярджае слушнасьць характарыстыкі, якую пісьменьнік Алесь Адамовіч даў рэспубліцы — антыперабудовачная Вандэя.

© PDF: Kamunikat.org 2014

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

## ВЯЛІКОДНЫ ТЫДЗЕНЬ

**Пасха: Літ. пав. Яна пач. 1 (1:1-17).**

1. На пачатку было Слова, і Слова было ў Бога, і Слова было Бог. 2. Яно было спрадвеку ў Бога. 3. Усё празь Яго сталася, і безь Яго нічога ня сталася з таго, што сталася. 4. У Ім было жыцьцё, і жыцьцё было сьвятлом для людзей. 5. І сьвятло сьвеціць у цемры, і цямнота яго не агарнула. 6. Быў чалавек пасланы ад Бога, імя ягонае Ян. 7. Ён прыйшоў дзеля сьветчаньня, каб сьветчыць пра Сьвятло, каб усе ўверавалі празь Яго. 8. Ён ня быў Сьвятлом, але каб сьведчыць пра Сьвятло. 9. Было праўдзівае Сьуятло, што асьвятляе кожнага чалавека, прыходзячага на сьвет. 10. На сьвеце быў, і сьвет стаўся празь Яго, і сьвет Яго не пазнаў. 11. Да сваіх прыйшоў, і собскія Ягоныя не прыйнялі Яго. 12. Але ўсім тым, што прыйнялі Яго, даў ім права стацца дзецьмі Божымі, тым, што верацць у імя Ягонае, 13. тым, якія ня з крыві, ані з волі цела, ані з волі мужа, але з Бога нарадзіліся. 14. І Слова сталася целам, і прабывала паміж намі й мы бачылі славу Ягоную, славу як адзінароднага ад Айца, поўнае ласкі й праўды. 15. Ян сьветчыць пра Яго й заклікаў, кажучы: «Гэта быў Той, пра Каго я сказаў: „Хто прыходзе за мною, выперадзіў мяне, бо быў перад мною"». 16. Бо з паўнаты Ягонае ўсе мы прыйнялі й ласку на ласку. 17. Бо закон быў дадзены цераз Майсея, а ласка й праўда празь Ісуса Хрыста.

* * *

**Пасха: вяч. пав. Яна пач. 65 (20:19-25).**

19. Увечары таго дня, што быў першым днём тыдня, са страху прад Жыдамі, дзьверы былі замкнёныя, дзе былі вучні, прыйшоў Ісус, і стаў пасярэдзіне, і кажа ім: «Супакой вам!» 20. І, сказаўшы гэта, Ён паказаў ім рукі й бок. І ўсьцешыліся вучні, убачыўшы Госпада. 21. Тады сказаў ім ізноў: «Супакой

*Старонка з напрастольнага Евангельля, выдадзенага Архіепіскапам БАПЦ Мікалаем да 1000-годзьдзя хрысьціянства ў Беларусі.*

## ЯШЧЭ ПРА ПЕРАКЛАД БІБЛІІ

У студзеньскім нумары «Беларуса» былі пададзеныя некаторыя весткі пра перакладаньне Бібліі й багаслужбаў у беларускую мову. Мы дасталі дадатковую інфармацыю на гэтую тэму:

Перакладам Бібліі займаюцца цяпер у АН БССР літаратары Васіль Сёмуха і Адам Мальдзіс. Праект перакладу быў ухвалены Мітрапалітам Менскім і Беларускім Філарэтам. Да працы далучыліся таксама евангельскія хрысьціяне-баптысты: старшы прасьвітар у БССР сп. Іван Букаты, ягоны намесьнік сп. Аляксандар Фрысюк ды іншыя. У Менскім малітоўным доме баптыстаў у студзені сёлета адбыліся два грамадзкія сходы, на якіх было па 500 чалавек і на якіх абмяркоўвалася справа перакладу. Людзі выказвалі задаваленьне, што нарэшце беларускі народ будзе мець Сьвятое Пісаньне ў сваёй роднай мове.

У газэце «Ніва» (5.ІІІ.89) зьмешчанае выказваньне дачкі Васіля Сёмухі Алесі, студэнткі філялёгіі й актывісткі «Талакі», якая сказала: «Царква праваслаўная пакрысе пачынае паварочвацца да нас тварам. Мітрапаліт Філарэт афіцыйна зьвярнуўся да беларускай інтэлігенцыі з прапановаю перакладу расейскага кананізаванага тэксту Бібліі на беларускую мову, з тым, каб празь нейкі час перавесьці багаслужэньне на беларускую мову. Наколькі я ведаю, у духоўных сэмінарыях пачалі курс беларускай мовы».

*Алег Бембель*

### ХРЫСТОС І АЙЧЫНА

*Раскрыжаваньне кат завершыў…*
*аблашчыў кужаль кроў Жыцьця…*
*так: Плашчаніца — гэта Першы*
*мой Бел-Чырвона-Белы Сьцяг!..*

«Студэнцкая Думка» № 3, 1989

### *«ХРЫСЬЦІЯНСКІЯ НАВІНЫ»*
**Беларускі інфарматар**

Пачынаючы ад верасьня леташняга году, выйшла шэсьць нумароў гэтага бюлетэню, у якім, апрача хронікі дзейнасьці Папы Яна Паўла II, падаюцца рэлігійныя весткі ды зьмяшчаюцца матар'ялы да гісторыі беларуска каталіцызму. У двух сёлетніх нумарох зьмешчаныя: калядная пасланьне Апостальскага Візытатара для Беларусаў-каталікоў а. Аляксандра Надсона; заканчэньне біяграфіі пралата Пятра Татарыновіча (аўтарства др. В. Сяньkевіча); ліст у рэдакцыю ад Марыі Пецюкевіч (да біяграфіі а. Татарыновіча); пасланьне Сьвяцейшага Айца з нагоды Сусьветнага Дня Міру ў 1989 годзе; артыкулы «Нацыянальная мова ў сацыялістычнай дзяржаве» і «Лёс беларускай студэнцкай арганізацыі ў Польшчы»; вестка пра выхад на Беларусі самвыдавецкага часапісу «Студэнцкая Думка»; ліст у рэдакцыю ад пляменьніка а. Татарыновіча ды верш нядаўна памерлага журналіста газэты «Ніва» Віктара Рудчыка «Беларусь на расьпяцьці».

Рэдагуе бюлетэнь сп. Янка Мойсік, супрацоўнік Беларускай сэкцыі Ватыканскага радыё.

## УГОДКІ ВЯЛІКАГА ШАЎЧЭНКІ

**175-годзьдзе нараджэньня**

Сёлета 9-га сакавіка споўнілася 175 год ад нараджэньня вялікага ўкраінскага паэты — Тараса Рыгоравіча Шаўчэнкі (1814-1861).

Шаўчэнкава творчасьць адыгрывала плённую ролю ў адраджэньні й разьвіцьці нацыянальнай і сацыяльнай самасьвядомасьці ня толькі ўкраінскага, але і многіх іншых народаў.

Паэзія Шаўчэнкі ў 19-м стагодзьдзі, выйшаўшы ў скорым часе далёка паза этнаграфічныя межы Ўкраіны, зрабіла свой рэвалюцыйны ўплыў у значнай меры на ўсе паняволеныя ў былой царска-расейскай імпэрыі, нерасейскія народы, у тым ліку й на народ беларускі. Нацыянальнае адраджэньне кожнага з гэтых народаў арыентавалася на ўкраінскага Шаўчэнку ды ў ягонай творчасьці шукала прыкладу для творчасьці собскай.

Украінскія вершы Тараса Шаўчэнкі пачыналі бытаваць у Беларусі амаль з таго-ж часу, што і на Ўкраіне.

Перапоўненая рэвалюцыйна-нацыянальнымі заклікамі, Шаўчэнкава паэзія была блізкая і зразумелая беларускаму народу, бо-ж у сваім гістарычным лёсе Беларусь перацярпела багата крыўдаў, падобных да крыўдаў, якіх зазнала і Ўкраіна.

Беларускія пісьменьнікі перад 1-ай Сусьветнай вайной знаходзілі ў творчасьці Шаўчэнкі ключ-крыніцу натхненьня для сваіх арыгінальна-беларускіх твораў, пісалі пра Шаўчэнку артыкулы, услаўлялі Кабзара сваімі вершамі, бо творчасьць братняга Шаўчэнкі была для Беларусаў блізкая не толькі славянскай, як і беларуская, мовай, але таксама ідэямі нацыянальнага вызваленьня й сацыяльнай справядлівасьці.

Амаль усе творы Т. Р. Шаўчэнкі перакладзеныя ў беларускую мову. Пераклады рабілі Ф. Чарнышэвіч, А. Гурло, А. Паўловіч, Я. Купала, Я. Колас, З. Бядуля, А. Куляшоў, П. Броўка, М. Клімковіч, К. Крапіва, П. Глебка, Ул. Дудзіцкі ды іншыя. Беларускія паэтычныя пераклады твораў украінскага Шаўчэнкі належаць да найзначнейшых дасягненьняў беларускай перакладной літаратуры.

Паэтычнай творчасьцю Т. Р. Шаўчэнкі ўкраінская літаратура дасягнула вяршыняў сусьветнай славы, падобна як і беларуская літаратура творчасьцю Янкі Купалы.

**(-ммт)**

**Тарас Шаўчэнка**

### ЗАПАВЕТ

Як памру я, пахавайце
Мяне на магіле
Сярод стэпу шырокага
На Ўкраіне мілай.

Каб палёў шырокіх нівы,
І Дняпро, і кручы
Было бачна, — было чутна,
Як раве равучы.
…………………

Пахавайце і паўстаньце,
Кайданы парвеце,
І варожай злой крывёю
Волю акрапеце!

І мяне ў сям'і вялікай,
Ў сям'і вольнай, новай,
Не забудзьце, ўспамянеце
Добрым, ціхім словам.

*З украінскае мовы пераклаў*
***Уладзімер Дудзіцкі***

*Да 125-годзьдзя сьмерці*

## КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА

Braty maje, mužyki rodnyje.
Z pad szybienicy maskouskaj
prychodzic mnie da was pisac
i može raz astatni. Horka
pakinuć ziemielku rodnuju
i Ciebie, darahi moj narodzie.
Hrudzi zastohnuć, zabolić
serce, — no nie žal zhinuć za
twaju praudu.
Pryjmi narodzie szczyraje
maje słowo predsmiert-
noje, bo jeno jak z taho świeta
pisane dla twaho dabra
napisano. Bratcy
Niemasz bolszaho szcza-
ścia na hetom świeci jak kali

*Аўтограф апошняга ліста Кастуся Каліноўскага «з-пад шыбеніцы маскоўскай».*

*Новая публікацыя*

**BYELORUSSIAN STATEHOOD**
**Reader and Bibliography**
**Edited by**
**Vitaut Kipel and Zora Kipel**

Выданьне Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва коштам Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

398 бб., карта, ілюстрацыі, дадаткі.

У кнізе: артыкулы, дакумэнты, успаміны, біяграфіі дзеячоў БНР, бібліяграфія — зь гісторыі і да гісторыі беларускае нацыянальнае дзяржаўнасьці.

Цана кнігі: 25 ам. дал.

Замаўляць: BiNiM
230 Springfield Ave
Rutherford, N. J. 07070
U.S.A.

Гэты пераклад быў зроблены на пачатку 1947 году ў г. Зальцбургу ў Аўстрыі й адчытаны быў на ўкраінска-беларускім літаратурным вечары 6 красавіка таго-ж году. На гэным вечары запрошаныя беларускія паэты Ўладзімер Дудзіцкі й Алесь Салавей чыталі свае вершы й пераклады з украінскай літаратуры. Між гэтым выступаў украінскі опэрнага тэатру хор П. Акопнага і ўкраінскі хор «Баян» М. Кукольскага.

Пасьля гэты пераклад Ул. Дудзіцкага дэклямаваўся на чужамоўных шаўчэнкаўскіх літаратурных вечарох, уладжваных для чужынцаў у 1952-53 гг. у Куфштайне і ў 1953-54 гг. у Інсбруку.

**(-ммт)**

## ВОЛЬГА КОРБУТ У ПАНТЭОНЕ СЛАВЫ






**OLGA KORBUT**
**1st Inductee into the International Gymnastics HALL of FAME October 15, 1988**

У Амэрыцы найвышэйшае дасягненьне ў спорце — гэта быць уведзеным у пантэон славы. Гэткія віды спорту, як бэйзбол, баскетбол, амэрыканскі футбол (які зусім розьніцца ад футболу эўрапейскага), маюць свае пантэоны. А нядаўна займела сваю сьвятыню й гімнастыка, і багіняй нумар адзін сталася ў ёй беларуская спартсмэнка Вольга Корбут. Пра гэта расказвае сёлетні студзеньскі нумар часапісу International Gymnast (Міжнародны гімнаст). Часапіс гэты выходзіць у горадзе Оўшэнсайд у штаце Каліфорнія, дзе знаходзіцца й пантэон гімнастычнае славы.

На вокладцы студзеньскага нумару — фатаздымак Вольгі Корбут з подпісам: «Вольга — першая ў Пантэоне славы». Артыкул пра беларускую гімнастку ілюстраваны каляровымі й чорна-белымі фатаграфіямі Вольгі з часоў ейнага трыюмфу на Мюнхэнскай Алімпіядзе ў 1972 годзе, а таксама фатаздымкамі зь леташняга году, калі Вольга із сваім мужам Лявонам Барткевічам і перакладчыкам Багданом Андрусышынам (Данчыкам) была запрошаная ў Оўшэнсайд, дзе адбылася цырымонія ўводу Вольгі ў пантэон гімнастыкі.

З гэтай нагоды ў гонар Вольгі Корбут быў наладжаны банкет, у часе якога паказалі дакумэнтальны фільм пра Корбут на Мюнхэнскай Алімпіядзе. Вользе былі перададзеныя ад Амэрыканскае Фэдэрацыі Гімнастыкі ўзнагароды й трафэі. Прамаўляючы да двухтысячнае аўдыторыі, Вольга Корбут выклікала авацыі, а ейная прамова, піша часапіс, нагадала слухачом тую Вольгу, якую яны памятаюць з часоў Алімпіяды. «Як і заўсёды, папулярная, — дадае часапіс, — пасьля банкету Вольга была акружаная паклоньнікамі й дабразычліўцамі». У нумары зьмешчаны артыкул пра Корбут і інтэрв'ю зь ёй. Артыкул пачынаецца вялікай, на цэлую старонку фатаграфіяй дзяўчынкі з касічкамі і загаловак: «Вольга! Яна адважылася быць іншай».

Артыкул паведамляе, што 15 кастрычніка летась Вольга Корбут была ўведзеная ў пантэон славы міжнароднае гімнастыкі, інстытуцыі, «якая сваім назовам зробленая для яе». І тутака чытаем: «На Мюнхэнскай Алімпіядзе 1972 году Вольга Корбут прынесла славу свайму віду спорту, якое ён ня меў да таго часу. Амаль імгненна жвавая Беларусачка ў касічках захапіла жывых гледачоў і шырокую публіку наагул. Ня было стандартаў, якіх яна не магла-б дасягнуць. Ейная гімнастыка была маестэтычнай, эфірнай, была выяўленьнем волі духу да фантазіяваньня, да расшырэньня ўсіх абмежаваньняў. Але ў сямнаццаць гадоў, маладая яшчэ, мераючы нармальнай меркай, яна была таксама хрупкай, здольнай памыляцца, чалавечнай, цудоўнай. Яна ўцелавіла немагчымыя супрацьлежнасьці: прывабнасьць і спагаду, бо яна была і недасягальнай і лёгкай для зразуменьня. Калі яна ўсьміхалася, дык распраменьвала іншых. Калі яна плакала й насупліваласа, дык сьвет плакаў і насупліваўся разам зь ёю. Гэта ня быў савецкі стоік. Яна дэманстравала ўсю гаму пачуцьцяў, добрых і благіх».

У даўгім інтэрв'ю Вольга Корбут адказвае на цэлы рад пытаньняў, зьвязаных зь ейным жыцьцём, савецкай гімнастыкай, Сэўльскай летняй алімпіядай, сваімі плянамі на бліжэйшую будучыню.

У Амэрыцы ёсьць гімнастычныя клюбы імя Вольгі Корбут, якія маюць нават свой бюлетэнь. Часапіс International Gymnast абвесьціў збор грашовых ахвяраў на пантэон гімнастычнае славы. За пяць даляраў ахвяры можна дастаць вялікі каляровы плякат з Вольгай Корбут ды адбітак артыкулу пра яе, апублікаваны ў часапісе International Gymnast ў 1978 годзе. Замоўленьні пасылаць на адрас:

IGHOF, P.O. Box H
Oceanside, CA 92054

## 5-Я ЎГОДКІ БЕЛАРУСКАГА РАДЫЁ Ў ПЭРЦЕ

Адзначаючы 5-я ўгодкі беларускіх радыяперадачаў у Пэрце (Аўстралія), нельга не сказаць пару слоў аб самой радыястанцыі. Папулярна ведамая пад назовам 6НР, яна належыць Куртынскаму ўнівэрсытэту, які раней называўся Заходня-Аўстралійскі Тэхналягічны Інстытут. Радыястанцыя аднак існуе як асобная адзінка, мае сваю адміністрацыю, у якую ўваходзяць: кіраўнік, каардынатар праграмаў і дзьве сакратаркі. Толькі гэтыя асобы дастаюць плату. Рэшта абслугі, улучна з этнічнай, працуе задарма. Існуе радыястанцыя за кошт грашовай дапамогі з боку дзяржавы і арганізацыяў, што карыстаюцца зь ейных паслугаў.

Этнічныя праграмы пачалі перадавацца дзесьці ад другое палавіны 1976 году, але за свой радыячас мусілі плаціць самыя. Пару гадоў пазьней кошты этнічных праграмаў узяў на сябе фэдэральны ўрад. Беларусы карысталі з гэтага на працягу 15 месяцаў. У выніку аднак пагоршаньня эканомікі ўрад зьменшыў сваю дапамогу і таму этнічныя групы змушаныя былі даплачваць. Спачатку гэты кошт ня быў вялікі і Беларускае Аб'еднаньне ў Заходняй Аўстраліі да канца 1986 году само пакрывала выдаткі поўнасьцю. Але ад пачатку 1987 году з розных прычынаў, давялося прасіць у суродзічаў дапамогі. Беларускае грамадзтва шчодра адгукнулася на заклік (гл. справаздачу).

Грошы ахвярадаўцаў выкарыстоўваюцца *толькі* на аплачваньне за радыячас і сяброўскія складкі Этнічнаму радыякамітэту. Усе іншыя выдаткі, зьвязаныя зь беларускай праграмай, пакрываюцца з уласнай кішэні. Восьжа беларускія радыяперадачы ў Пэрце існуюць толькі дзякуючы ахвярадаўцам, маленькай дапамозе фэдэральнага аўстралійскага ўраду ды журналістычнай дапамозе др. Я. Запрудніка, др. В. Сянькевіча і іншых асобаў.

Праблему маем з кружэлкамі (музычным матар'ялам) і дыктарамі. Нядаўна пацярпеў ангельскі куток беларускай радыяпраграмы, бо ейны дыктар М. Раецкі малодшы, апрача свае настаўніцкае працы, працягвае навуку.

Што да якасьці беларускіх праграмаў, дык паводля апытаньня слухачоў, яны вельмі добрыя. Аўдыторыя перадачаў вялікая, асабліва шмат чужынцаў слухае іх. У справе пашырэньня тут імя Беларусі й жаданьня нашага народу быць незалежным беларускае радыё мае ўдачы. 4-га сакавіка сёлета споўнілася беларускім радыяперадачам пяць гадоў, а 5 сакавіка пайшла ў эфір 250-я праграма.

На заканчэньне выказваю шчыры беларускі дзякуй усім, хто чым-колечы спрычыніўся да існаваньня беларускіх радыяпраграмаў у Пэрце ў Заходняй Аўстраліі. Спадзёмся, што беларускае грамадзтва ў вольным сьвеце будзе й надалей памятаць аб Беларускім Радыё ў Пэрце ў Заходняй Аўстраліі.

**Р. М.**
**кіраўнік Беларускага Радыё ў Заходняй Аўстраліі**

### СПРАВАЗДАЧА
### Беларускага радыякамітэту ў Пэрце, Заходняя Аўстралія

Выдаткі, пакрытыя касай Беларускага Аб'еднаньня ў Зах. Аўстраліі ў пэрыядзе ад 16.II.1984 да 20.XII.1987:

| | |
|---|---|
| Сяброўскія складкі Этнічнаму радыякамітэту | аўстр.д. 270 |
| Аплата за радыячас | 144 |
| Калядны падарунак радыяапэратару | 40 |
| Аплата за перасыланьне пазычаных кружэлак | 55 |
| Усяго | 509 |

За пэрыяд ад 15.I.1987 да 10.I.1989:

| | |
|---|---|
| Дасланыя ахвяры: С. Карніловіч, К. Калоша, А. Сацэвіч, А. Міцкевіч, Я. Запруднік, М. Грэбень, БАЗА-Нью-Ёрк, парафія БАПЦ у Кліўленьдзе | 1165 |
| Фэд. Рада Бел. Арг. у Аўстр., М. Скабей, У. Шэрба | 729 |
| М. і Г. Шуст, Канада | 120 |
| Др. Р. і В. Жук-Грышкевіч | 50 |
| Др. Б. Кіт, Нямеччына | 600 |
| Сям'я М. і А. Мігаль, Тасманія | 100 |
| ЗБВБ і А. Лашук, Лёндан | 70 |
| Беларускі Клюб у Н. П. В. | 100 |
| М. Лужынскі | 100 |
| Беларусы ў Зах. Аўстраліі | 510 |
| Беларускае Аб'еднаньне ў Зах. Аўстр. | 300 |
| Усяго | 3844 |
| Выдаткі: | |
| Складка ў Этнічны Радыякамітэт | 60 |
| Аплата за радыячас ад 1.I.87 да 31.III.87 | 250 |
| Аплата за радыячас ад 1.X.87 да 31.XII.87 | 250 |
| Аплата за радыячас ад 1.I.88 да 31.XII.88 | 913 |
| Засталося ў касе на 10.I.89 | 2370 |

*Заўвага:* За радыячас у пэрыядзе 1.IV.87-30.VI.87 і 1.VII.87-30.IX.87 заплаціў Этнічны Радыякамітэт.

**М. Раецкі,**
**кіраўнік Бел. Радыё ў Пэрце, З. А.**

## *БЕЛАРУСАВЕДНЫ КОНКУРС БГКТ*

Зь ініцыятывы Канадыйскага Таварыства «Беларусь» (таварыства для культурных сувязяў зь Беларусяй) Беларускае Грамадзка-Культурнае Таварыства ў Беластоку абвесьціла ў студзені сёлета беларусаведны конкурс сярод вучняў пачатковых і сярэдніх школаў ды сярод студэнтаў. Конкурс будзе адбывацца па тэмах: «Зямля беларуская», «Старажытная Беларусь» і «Што я ведаю пра Беларусь?» Устаноўленыя па тры грашовыя ўзнагароды ў кожнай тэме (ад 20 да 70 даляраў). Грашовыя фонды на конкурс дае Канадыйскае Т-ва «Беларусь».

Правядзеньнем конкурсу будзе займацца арганізацыйны камітэт БГКТ у складзе: Марыя Базылюк (настаўніца беларускай мовы), Яўген Вапа (студэнт Варшаўскага ў-ту, старшыня Беларускага Аб'еднаньня Студэнтаў). Антон Мірановіч (гісторык, член ГП БГКТ) і Сакрат Яновіч (пісьменьнік, член Прэзыдыюму ГП БГКТ).

Калі-б хто з чытачоў «Беларуса» пажадаў падтрымаць добрую справу пашырэньня веды пра Беларусь, чым займаецца Канадыйскае Т-ва «Беларусь», дык няхай пашле грашовую ахвяру або на парафію Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронцье з зазначэньнем, што гэта ахвяра на Канадыйскае Т-ва «Беларусь» (Parish St. Kiryla Turauski, 524 St. Clarens Ave., Toronto, Ont. M6H 3W7), або беспасярэдня на Т-ва: CANADIAN BIELARUS SOCIETY, 4075 Old Dundas St. West, B-2, Toronto, Ont. M6S 2R7, Canada.

## ПАХОВІНЫ ДР. В. ЖУК-ГРЫШКЕВІЧА



*Сям'я й прыяцелі над дамавінай*

Пахаваньне сьв. пам. др. Вінцэнта Жук-Грышкевіча, былога Старшыні Рады БНР, адбылося ў аўторак 21 лютага 1989 году. У царкве Жыровіцкай Божай Маці ў Гайленд-Парку а. Аляксандар Надсон адправіў сьв. Літургію й паніхіду. Хорам кіраваў сп. Міхась Тулейка. Ля дамавіны стаяла ганаровая вэтэранская варта.

Над магілай на Беларускім могільніку ў Іст-Брансьвіку Старшыня Рады БНР др. Язэп Сажыч сказаў разьвітальныя слова. Песьня «Сьпі пад курганам гэрояў» прагучэла як заключны акорд пачуцьцяў тых, што праводзілі ў апошні шлях.

Памінальная бяседа адбылася ў Саўт-Рывэры з удзелам сям'і нябожчыка, радных, сяброў і суродзічаў, што зьехаліся аддаць апошнюю пашану вялікаму нацыянальнаму працаўніку.

Успамінамі пра цярністы шлях памерлага, ягонае працавітае й самаахвярнае жыцьцё на беларускай грамадзкай ніве падзяліся сп.сп. В. Русак, а. Ал. Надсон, А. Шукелайць, др. Я. Запруднік, Я. Азарка, М. Тулейка, сп-ня Р. Галяк, Ул. Курыла, В. Стома.

Усім шчыра дзякавала за малітвы й духовае падтрыманьне жонка нябожчыка др. Р. Жук-Грышкевіч.

Айцец Васіль Андрэюк, настаяцель парафіі Жыровіцкай Божай Маці, перад канчальнай малітвай выказаў спачуваньні ўдаве ад імя Архіепіскапа БАПЦ Мікалая і ўправы свае парафіі.

## ПАМЯЦІ ДР. ВІНЦЭНТА ЖУК-ГРЫШКЕВІЧА

*Заміж вянка на магілу, ахвяры на Беларускі Крыж:*

| | | |
|---|---|---|
| 1. Эва й Ян Мэк Карвіл (Э. Пашкевіч) | кан.дал. | 100,00 |
| 2. Нікіфар і Ванда Сільвановіч | | 40,00 |
| 3. Галіна й Васіль Русакі | | 58,62 |
| 4. Сям'я Стагановічаў | | 29,31 |
| 5. Еўфрасіньня Станяшэк | | 23,45 |
| 6. Пётра Нядзьвецкі | | 23,45 |
| 7. Пётра й Марыя Кажуры | | 23,45 |
| 8. Сп. Вінцэнт Грузд | | 11,72 |
| 9. Рагнеда Увітнэй (Ханяўка) зь сям'ёй | | 117,23 |
| 10. Марыя Ханяўка | | 58,62 |
| 11. Аляксандра Чарнэцкая | | 11,77 |
| 12. Віталі й Люба Кажаны | | 35,55 |
| 13. Ірэна Гайдзель | | 59,25 |
| 14. Раіса Галяк | | 59,25 |
| | | 651,67 |

*На Бібліятэку імя Франьцішка Скарыны ў Лёндане:*

Нюра й Валодзя Русакі ам.дал. 50,00

## ПАДЗЯКА

Шчыра дзякуем усім, хто ўзяў удзел у пахаваньні нашага дарагога мужа, бацькі й дзеда, сьв. пам. Аляксандра Стагановіча, а таксама тым, хто прыслаў спачуваньні або склаў грашовую ахвяру ў памяць нябожчыка на газэту «Беларус» ці на вянкі. Прысланыя на вянкі грошы перасланыя як дапамога чатыром цэрквам на Падляшшы-Беласточчыне.

**Сям'я Стагановічаў**

## СЭМІНАРЫСТЫ-БЕЛАРУСЫ Ў РЫЗЕ

Паводля ангельскага часапісу Religion in Communist Lands (№ 4, зіма 1988), у каталіцкай сэмінарыі ў Рызе вучацца дзесяцёх беларусаў. Статыстыка сэмінарыстаў узятая з дакумэнту, які нядаўна трапіў на Захад з Рыскае дыяцэзіі. «Больш як праўдападобна, — піша часапіс, — некаторыя ўкраінскія, беларускія і нават 'польскія' студэнты Рыскай сэмінарыі — гэта каталікі ўсходняга абраду».

## *ЛЕКЦЫЯ ПРА ХРЫСЬЦІЯНСТВА Й БЕЛАРУСКУЮ КУЛЬТУРУ*

На Ўнівэрсытэтце імя Ляёлі ў Чыкага праф. Томас Бэрд, выкладчык Ньюёркскага Гарадзкога Ўнівэрсытэту і дасьледнік беларускіх праблемаў, прачытае лекцыю ў праграме курсу публічных лекцыяў на тэму тысячагодзьдзя хрысьціянства ў Кіеўскай Русі й сярод Усходніх славянаў (кіраўнік курсу — праф. Васіль Маркусь). Лекцыя праф. Бэрда «Уплыў хрысьціянства на беларускую нацыянальную культуру» адбудзецца 6 красавіка в 6-й гадзіне ўвечары (WTC, MC, Rm. 30).

ГАЗЭТА «БЕЛАРУС» — НЕЗАМЕННАЯ КРЫНІЦА ІНФАРМАЦЫІ ДЛЯ БЕЛАРУСАЎ ПА ЦЭЛЫМ СЬВЕЦЕ

## ПАБУДОВА БЕЛАРУСКАГА КРЫЖА Ў КАНАДЗЕ

**Справаздача**

| | | |
|---|---|---|
| Пабудова крыжа | кан.дал. | 3000,00 |
| Мэмарыяльная дошка | | 1578,95 |
| «Ляндскэйпінг» | | 2157,00 |
| | Разам | 6735,95 |

*Ахвяраў сабрана*

| | |
|---|---|
| (Гл. «Беларус» №№ 348, 350, 351, 354, 355, 357а) | 4271,69 |
| Раіса Жук-Грышкевіч у памяць свайго дарагога мужа Вінцэнта Жук-Грышкевіча | 2464,26 |
| Разам | 6735,95 |

Арганізатары праекту «Беларускі Крыж» шчыра дзякуюць усім ахвярадаўцам. Асаблівая падзяка за ўшанаваньне сьв. пам. др. Вінцэнта Жук-Грышкевіча, які быў душой праекту «Беларускі Крыж» і хваліў Бога, калі ўдалося яго ўрэчаісьніць. І як напісаў у лісьце дырэктар Прошчы ў Мідляньдзе, а. Джэймс Фарэл, «Беларускі Крыж у Прошчы стаіць як манумэнт памяці Вінцэнта Жук-Грышкевіча», так будзе ён заўсёды манумэнтам і Беларусоў на чужыне.

**Арганізацыйны Камітэт**

*З жыцьця ў Кліўленьдзе*

## ПАНІХІДА ПА СЬВ. ПАМ. В. ЖУК-ГРЫШКЕВІЧУ

У нядзелю 19 лютага ў царкве Жыровіцкай Божай Маці была адслужаная паніхіда за супакой душы былога Старшыні Рады БНР сьв. пам. Вінцэнта Жук-Грышкевіча. Паніхіду адправілі аа. Міхась Страпко й Якуб Пэрута. У часе паніхіды радныя Андрэй Стрэчань і Янка Каваленка трымалі беларускі й амэрыканскі сьцягі ў гонар нябожчыка. Пазьней за памінальным сталом было сказана колькі цёплых словаў аб памерлым сябру. Няхай раньні вясновы вецер занясе ягоны змагарны дух на родную беларускую зямельку.

Жыве Беларусь!

**Рада сэктару Кліўленд-Дэтройт: Андрэй Стрэчань, Уладзімер Бакуновіч, Янка Ханенка**

Выйшла з друку новая кніжка Масея Сяднёва пад назовам «А часу больш, чым вечнасьць». У кнізе зьмешчаныя як арыгінальныя вершы, гэтак і пераклады. Абыймо кнігі 140 б. Цана 10 ам. даляраў. Кніжку можна замовіць у аўтара: M. Sednew, 15 Alex Lane, Glen Cove, N.Y. 11542.

## НАСУСТРАЧ «СУСТРЭЧАМ»

Падпішэцеся на часапіс беларускіх студэнтаў у Польшчы «Сустрэчы», які неўзабаве пачне выходзіць часьцей як раз на год. Часапіс друкуе артыкулы на беларускія гістарычныя й культурныя тэмы, весткі з жыцьця Беларускага Аб'еднаньня Студэнтаў (БАС) ды пляце падаваць таксама інфармацыю пра падзеі ў БССР і на эміграцыі.

Падпіску, 20 амэрыканскіх даляраў на год, сляць тымчасам на адрас Канадыйскага Таварыства «Беларусь»: (4075 Old Dundas St.W. B-2 Toronto, Ont. M6S 2R7, Canada).



*З жыцьця ў Нью-Джэрзы*

## СХОД АДЗЬДЗЕЛУ БАЗА

12 лютага 1989 г. у Гайленд-Парку адбыўся гадавы сход сяброў Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў Нью-Джэрзы. У прэзыдыюм сходу былі выбраныя сп.сп. Сяргей Гутырчык — старшыня й Леанід Шурак — сакратар.

Пасьля малітвы Яго Высокадастойнасьці Ўладыкі Мікалая сход ушанаваў памяць нядаўна адышоўшых на вечны спачынак сяброў БАЗА сьветлай памяці Часлава Ханяўкі, Зінаіды Станкевіч і Аляксандра Стагановіча.

Справаздачу аб дзейнасьці адзьдзелу зрабілі: старшыня Міхась Тулейка й скарбнік Янка Азарка. Кантрольная камісія асьветчыла, што ўправа адзьдзелу працавала вельмі добра й запрапанавала ўдзяліць ёй абсалюторыюм з падзякай, што пасьля жывой дыскусіі і было зроблена. Сход перавыбраў управу й кантрольную камісію ў поўным складзе на наступную кадэнцыю.

Сп. М. Тулейка прадставіў праект дзейнасьці адзьдзелу на наступны год. Сход закончыўся адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну.

## СЬВ. ПАМ. ІВАН КАСЯК

13-га сакавіка 1989 г. памёр у Чыкага на 80-м годзе жыцьця сьв. пам. Іван Касяк, ведамы беларускі грамадзка-палітычны дзеяч, шматгадовы старшыня Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі, аўтар колькіх кніжак з навейшай гісторыі Беларусі ды шматлікіх мэмарандумаў у абароне правоў беларускага народу. Інжынер-архітэктар з прафэсіі, нябожчык пісаў таксама аб беларускай архітэктуры ды праектаваў царкоўныя будынкі.

Пахаваны сьв. пам. І. Касяк 18 сакавіка на Беларускім могільніку імя Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры, штат Нью-Джэрзы.

## «ЗВАЖАЙ» № 1(53) Сакавік 1989

У нумары: артыкул пра канец савецкай акупацыі Афганістану; Я. Барэйка — 70-я ўгодкі Вяліскага паўстаньня; Я. Б-ка — Вайна 1812 году і беларускія Жыды (заканчэньне); інфармацыя пра другі Вальны сойм беларускай моладзі ў Вільні, а таксама пра зьезд у Вільні прадстаўнікоў незалежніцкіх рухаў у СССР; агляд друку; ліст Ю. Латышонка пра высьвячэньне магілы й помніка А. Гаруна; К. Акула — Самагубства Жэні Янішчыц; нэкралёгі; фотастат артыкулу У. Дзянісава зь «ЛіМу» (17.II.89) «Як зьмянілі назву Менску»; рэпартаж С. Пчалы пра 68-я ўгодкі Слуцкага паўстаньня ў Нью-Брансьвіку (ЗША).

Нумар ілюстраваны.

## «МЭМУАРЫ» ЯНА ПЯТРОЎСКАГА

Выйшла першая кніга дакумэнтаваных успамінаў беларускага рэлігійнага й культурнага дзеяча Яна Пятроўскага пад заг. «МЭМУАРЫ. Стагодзьдзе ў рэтраспэкце». Кніга (347 бб.) абыймае пэрыяд 1905-1945 гадоў. У ёй адлюстраванае ў асноўным беларускае жыцьцё ў былой Заходняй Беларусі і крыху ў Бэрліне ў часе вайны.

За 25 даляраў ахвяры на Беларускі Харытатыўны Адукацыйны Фонд, які яе выдаў, кнігу можна набыць, пішучы на адрас:

Byelorussian Charitable Educational Fund
1716 NE 7th Terrace
Gainesville Fla 32601

НАВІНЫ
Выданьне Арганізацыйнага камітэту.
1'1988
БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ ЗА ПЕРАБУДОВУ «АДРАДЖЭНЬНЕ»

БЕЛОРУССКАЯ ТРИБУНА
№1.1988
ВОСКРЕСЕНЬЕ 4 ДЕКАБРЯ
ВЫХОДИТ: 1 РАЗ В НЕДЕЛЮ НА РУССКОМ ЯЗЫКЕ
БЮЛЛЕТЕНЬ НЕЗАВИСИМОГО ИНФОРМЦЕНТРА – группы поддержки БЕЛОРУССКОГО НАРОДНОГО ФРОНТА ЗА ПЕРЕСТРОЙКУ "ВОЗРОЖДЕНИЕ"

КАНТРОЛЬ
БЮЛЕТЭНЬ ТАВАРЫСТВА МАЛАДЫХ ЛІТАРАТАРАЎ "ТУТЭЙШЫЯ" /2/ ...89

СТУДЭНЦКАЯ ДУМКА
Сьвітанак
грамадзка-палітычны ды культуралагічны часопіс студэнцкага патрыятычнага згуртаваньня «Сьвітанак»
№ 1 1988 лістапад-сьнежань 1988 год I

*На Беларусі выдаецца цяпер каля дзесятка самвыдавецкіх публікацыяў, кожная тыражом 5-7 тыс. экзэмпляраў.*

# СТРАЛЬБА ПА МЕРЦЬВЯКОХ НІЧОГА НЯ ДАСЬЦЬ

Чарнільныя стрэлы ляцяць, ды ня туды. Сталін, Брэжнеў, Хрушчоў, Суслаў і ўсё ад іх вытворнае ды зь імі зьвязанае — гэта мішэні, страляньне па якіх не мяняе рэчаіснасьці. Бо цяперашняя рэчаіснасьць на Беларусі не залежыць ад Сталіна з Брэжневам, а ад прынцып сталіншчыны-брэжнеўшчыны — вярхоўнае начальства па-за крытыкай! — застаўся някранутым, прынамся ў найбольш рэакцыйнай з правінцыяў імпэрыі, у Вандэі-Беларусі. А калі гэнерл-губэрнатара чапаць ня можна, дык за ягонымі плячыма бясьпечна чуюцца й мясцовыя князькі, якія прывыклі выдаваць апошнія прысуды, распараджацца лёсамі людзей і нацыі.




*З вокладкі часапісу «Вожык» № 22, лістапад 1988 г.*

іхнага спадкаёмца Яфрэма Сакалова, першага сакратара партыйнай арганізацыі рэспублікі. Сакалоў, ягоны адпаведнік Суслава Пячэньнікаў ды іншыя саноўнікі у ЦК КПБ і міністэрскія вяльможы вызначаюць стан справаў і кірунак разьвіцьця на Беларусі. І не на папярэднікаў-нябожчыкаў — «мёртвым не баліць», — а на іх трэба нацэльваць аналітычнае, крытычнае, дый сатырычнае пяро. Бо калі й сёньня беларуская моладзь ня можа ў сябе ўдома правесьці свой зьезд, калі й сёньня расейшчыны па дзіцячых садках і школах забівае нацыянальную сьведамасьць маладых Беларусаў, дык за гэта ўжо ня Сталін, а Яфрэм Сакалоў і гвардыя павінны быць пад абстрэлам.

Але ў тым-та й рэч, што цэнтральны

Сучасная публіцыстыка БССР багатая на апісаньне фактаў гвалту й зьдзеку над нацыянальнай культурай і прыродай, але вельмі бедная на прозьвішчы й крытыку канкрэтных вінавайцаў і спраўцаў гвалту, бедная на палітычную ініцыятыву, каб выцягваць нарэшце людзей з твані правінцыйшчыны й запалоханасьці на шырэйшыя шляхі ўсенароднае адбудовы «Раськіданага Гнязда».

Стральба па мерцьвяках справаў не палепшыць, трэба біць па жывых бюрократах-рэакцыянерах-застойшчыках — тых, што ў акопе. **Беларус**

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

**ЗША**

*Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:*

| | |
|---|---|
| С. Антонік | ам. д.50 |
| М. і В. Махнач | 50 |
| АБАМ | 50 |
| Г. Руднік | 50 |
| В. Р. | 50 |
| Т. і Г. П. (у памяць В. Паланевіча) | 50 |
| М. Дубоўскі | 40 |
| Ф. Сак | 40 |
| І. Каханоўская | 35 |
| Н. Кушэль | 30 |
| М. Каленік | 30 |
| В. Казлоўскі | 30 |
| Т. Бэрд | 25 |
| Н. Александровіч | 25 |
| Г. Сенькевіч | 25 |
| Э. Жызьнеўскі | 25 |
| А. Л. | 20 |
| К. Загонэк | 20 |
| Л. Кавалёў | 20 |
| Р. Крэмпль | 20 |
| Г. Паланевіч | 20 |
| М. Грэбень | 20 |
| Н. Кудасава | 20 |
| В. Рамук | 15 |
| М. К. | 15 |
| Я. Ю. | 15 |
| В. Кажан | 10 |
| Усяго | 790 |

| | |
|---|---|
| Г. Руднік | ам.д. 50 |
| І. Каханоўская | 25 |
| П. Міранові ч | 20 |
| Ю. Рэпэцкі | 15 |
| Усяго | 120 |

*Заміж кветак на магілу с. п. В. Жук-Грышкевіча:*

| | |
|---|---|
| А. Орса-Рамана | 70 |
| М. і В. Махнач | 60 |
| Згурт. Бел. у В. Брыт. | 50 |
| Я. Сажыч | 20 |
| А. Стрэчань | 20 |
| В. Плескач | 20 |
| У. Бакуновіч | 20 |
| Т. Кананчук | 20 |
| І. Каляда-Сьмірнова | 20 |
| Ю. Гасьцееў | 20 |
| Я. Ханенка | 20 |
| Усяго | 360 |

*Праз нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча:*

| | |
|---|---|
| А. Субота | 50 |
| М. Л. Стагановіч (у памяць бацькі, мужа й А. Стагановіча) | 50 |
| І. Цупрык | 40 |
| В. Стома | 30 |
| А. С. | 30 |
| А. Непейн | 30 |
| М. Александровіч | 25 |
| Г. Гэльвіг | 20 |
| Я. Місюль | 20 |
| А. Дубяга | 20 |
| А. Балкоўскі | 20 |
| У. Харавец | 20 |
| К. Колбік | 20 |
| М. Каранеўскі | 20 |
| У. Сьліўка | 20 |
| М. Ханяўка | 20 |
| М. К. | 10 |
| Усяго | 445 |

*Праз нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча:*
*Заміж кветак на магілу с.п. В. Жук-Грышкевіча:*

| | |
|---|---|
| Б. А. Э. Даніловіч | 25 |
| У. Курыла | 25 |

*Падпіска й ахвяры:*

| | |
|---|---|
| П. Кажура | 30 |
| а. В. Андрэюк | 25 |
| А. Асіповіч | 25 |
| Л. Стагановіч | 25 |
| У. Курыла | 25 |
| В. Кабушка | 20 |
| Я. Сапежынскі | 20 |
| В. Дубяга | 20 |
| В. Ярашэвіч | 10 |
| Усяго | 250 |

**КАНАДА**

| | |
|---|---|
| Я. Сурвіла | ам.д. 50 |
| В. Целеш | 35 |
| К. Акула | 25 |
| А. Эйі | 20 |
| А. Монід | 50 |
| Я. Баран | кан.д. 50 |
| Б. Кірка | 25 |
| М. Ганько | 20 |
| Усяго | ам.д. 185<br>кан. д. 95 |

**АНГЕЛЬШЧЫНА**

| | |
|---|---|
| Я. Міхалюк | анг.ф. 10 |
| А. Здановіч | 10 |
| Я. Сяўковіч | 10 |
| Усяго | 30 |

**БЭЛЬГІЯ**

| | |
|---|---|
| З. Смаршчок | ам.д. 50 |

**ФРАНЦЫЯ**

| | |
|---|---|
| В. Дубоўскі | ам.д. 100 |
| Н. Занковіч | 35 |

**АЎСТРАЛІЯ**

| | |
|---|---|
| Я. Стасевіч | ам. д. 25 |
| М. Раецкі | 80 |

Шчыры дзякуй — усім ахвярадаўцам, прадстаўнікам і падпішчыкам!
**Адміністрацыя газ. «Беларус»**



## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД

*Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва атрыманыя ахвяры:*

| | |
|---|---|
| Л. і А. Беленісы | ам.д. 500 |
| М. і В. Махнач | 100 |
| Р. Завістовіч | 40 |
| М. Грэбень | 40 |
| К. Шэлест | 25 |
| А. і Н. Непейн | 20 |
| В. і Л. Кажан (у памяць сп. А. Стагановіча | 30 |
| В. Гушча | 16 |
| Ул. і Л. Брылеўскія | ам.д. 100 |
| В. і В. Рамукі | 50 |
| А. і Н. Сільвановіч | 50 |
| К. і Б. Вортс | 100 |
| М. і М. Ганько (у памяць с.п. В. Жук-Грышкевіча | кан.д. 50 |
| Я. Баран | 50 |
| Прыход Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронце (у памяць с.п. В. Жук-Грышкевіча) | 50 |
| Разам | ам.д. 1021<br>кан. д. 150 |